

# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець
у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №9 (151)
ЧЭРВЕНЬ 2022 ГОДА

ІНВЕСТЫЦЫІ

## ПАТРЭБНЫ 2,5 МЛН РУБ.ДЛЯ СТАНЦЫІ ВОДААДЛІВА

**На рэканструкцыю помпавай станцыі водаадліва (2-я чарга) даламітавага кар'ера ў Рубы ў Віцебскім раёне УКБ Віцебскага аблвыканкама плануе выдаткаваць яшчэ амаль мільён долараў.**

Нагадаем, што праблемы з адпампоўкай вады пачаліся на даламітавым кар'еры ў Рубы ў 2016 годзе пасля запаўнення вадасховішча Віцебскай ГЭС.

З-за ўзнятага ўзроўню вады ў Дзвіне былі затоплены выпрацаваныя кар'еры, а наяўныя помпы перасталі спраўляцца з адпампоўкай вады з кар'ераў, якія эксплуатуюцца.

У мінулым годзе ААТ "Даламіт" быў аб'яўлены тэндэр на рэканструкцыю помпавай станцыі водаадліва кар'ера "Гралева" з будаўніцтвам вадаводаў. Яго выйграла ТАА «ПлісаБуд», кошт дамовы склаў 4699846 рублёў 53 капейкі.

Арыентыровачны кошт другога пускавога комплексу рэканструкцыі помпавай станцыі, на якую УКБ шукае падрадчыка, складае 2491252 рубля 30 капеек.

Заказчыкам работ выступае адкрытае акцыянернае таварыства "Даламіт", фінансавацца яны будуць за кошт уласных сродкаў заказчыка.

**Сяржук Серабро**
**ННВ**

**Чытайце сайт Віцебскага раёна: http://vicebskreg.by**

СЛЕДСТВА

## ЗАВЕРШАНА РАССЛЕДАВАННЕ СМЕРЦІ Ў ДЭЛЬТАЛЁЦЕ

**Галоўным следчым упраўленнем завершана расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да ўладальніка дэльталёта, які ўпаў у Віцебскай вобласці.**

Як паведамлялася раней, вечарам 10 жніўня мінулага года ў міліцыю паступіла паведамленне аб тым, што ў Віцебскім раёне падчас палёту ў вадаём упаў дэльталёт. На месца здарэння неадкладна выбылі праваахоўнікі.

Па дадзеных следства, сям'я прыехала з Віцебска, каб пакатацца на лятальным апараце. Першай пасажыркай была 17-гадовая дзяўчынка, потым настала чарга яе сваячкі. Падчас палёту над возерам Добрына Віцебскага раёна дэльталёт, які належыць 61-гадоваму мясцоваму жыхару, упаў з вышыні 10 метраў у ваду і пагрузіўся на дно. Мужчыну ўдалося выбрацца з вады, а вось пасажыра – 39-гадовую жанчыну – выратаваць не ўдалося.

Следчымі праведзена карпатлівая работа па ўстанаўленні абставін здарэння. Дапытаны абвінавачаны, пацярпелы і сведкі, вывучана дакументацыя. Дэпартаментам па авіяцыі Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь праведзена праверка, вынікі якой далучаны да матэрыялаў крымінальнай справы. З ДКСЭ атрыманы заключэнні экспертыз, у тым ліку экспертызы тэхнічнага стану дэльталета.

Падчас следства ўстаноўлена, што абвінавачаны не меў права кіравання паветраным суднам, дазволу на выкарыстанне паветранай прасторы Рэспублікі Беларусь для ажыццяўлення палётаў і пасведчання пілота.

З матэрыялаў крымінальнай справы вынікае, што мужчына да пачатку палёту не пераканаўся, што колькасць запраўленага паліва дастаткова для бяспечнага палёту і абраў непрыдатную ўзлётна-пасадачную паласу, што, у сукупнасці, і прывяло да трагедыі.

Пасля апускання дэльталёта ў ваду, абвінавачаны не прыняў мер для забеспячэння бяспекі свайго пасажыра, якая не магла самастойна пакінуць лятальны апарат з-за зашпіленых рамянёў бяспекі, дапамогі ёй не аказаў, а з месца здарэння сплыў да берага.

Па выніках расследавання дзеянні 61-гадовага жыхара Віцебскага раёна кваліфікаваны следствам як парушэнне правілаў бяспекі руху і эксплуатацыі паветранага транспарту асобай, якая абавязана выконваць гэтыя правілы ў сілу работы, якая пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека (ч.2 арт.314 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь) і свядомае пакіданне ў небяспецы, учыненае асобай, якая сама па неасцярожнасці паставіла пацярпелага ў небяспечны для жыцця і здароўя стан (ч.3 арт.159 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь).

Расследаванне крымінальнай справы завершана, матэрыялы перададзены пракурору для накіравання ў суд.

**Аддзел інфармацыі і сувязі з грамадскасцю СК РБ**

ПАКАРАННЕ

## 640 РУБЛЁЎ ШТРАФУ ДЛЯ КАЛОНІІ

**30 мая суд Віцебскага раёна прызнаў папраўчую калонію вінаватай у адміністрацыйным правапарушэнні, прадугледжаным часткай 2 артыкула 16.17 КаАП – незаконная высечка ў эксплуатацыйных лясах.**

Пад суд патрапіла папраўчая калонія №3, размешчаная ў пасёлку Віцьба Віцебскага раёна.

Па рашэнні суда калонія павінна заплаціць штраф у памеры 640 рублёў.

Згодна з матэрыяламі справы падчас нарыхтоўкі лесу ў адным з лясгасаў Віцебскай вобласці гэтая папраўчая ўстанова самавольна высекла 17 насенных дрэў хвоі і 1 дрэва дуба, не назначаных у рубку. Такім чынам была нанесена шкода на 8838 рублёў 40 капеек.

**Сяржук Серабро**
**ННВ**

САМАЎПРАЎСТВА

## НОВАБУД НЕ Ў РАДАСЦЬ

**Да адказнасці прыцягнулі жыхарку Віцебскага раёна, якая самавольна павялічыла плошчу дома амаль у пяць разоў, і, магчыма, ёй даналічаць падатак.**

Маючы ва ўласнасці жылы дом плошчай 43 квадратныя метры, яна зрабіла яго рэканструкцыю без дазвольнай дакументацыі. Пры гэтым плошча будынка павялічылася да 200 квадратных метраў, а на прыдамавой тэрыторыі з'явіліся лазня, альтанка, навес.

Не ўзаконіўшы самавольныя пабудовы, прадпрымальная жанчына здавала іх у арэнду. Пасля выяўлення самавольнага будаўніцтва ў дачыненні да яе пачалі адміністрацыйны працэс.

Акрамя таго, такая дзейнасць можа пацягнуць даналічэнне падатку, паколькі не прыняты і не зарэгістраваны ва ўстаноўленым парадку аб'ект будаўніцтва не з'яўляецца ўласнасцю фізічнай асобы, лічыць КДК.

**Клаўдзія Цётушкіна**

ФЕСТЫВАЛЬ

## "СЦЕЖКА ВОЛАТА" ДЛЯ ТУРЫСТАЎ

**Рыхтуючыся годна сустрэць удзельнікаў і гасцей абласнога фестывалю "Волаты Прыдзвіння", грамадскасць Віцебскага раёна на чале з дырэктарам раённага краязнаўчага музея Андрэем Кулябкіным, ляснічым Летчанскага лясніцтва Алегам Грыцкевічам, педагогамі ажывіла работу па адкрыцці турысцкага маршруту "Сцежка волата".**

Прайшло крыху часу з дня 100-гадовага юбілею Фёдара Махнова, і ўжо сотні грамадзян Беларусі і замежных гасцей наведалі магілу волата, яго хутар, млын, на якім ён працаваў у дзяцінстве, а пазней стаў яе ўладальнікам.

У Віцебску побач з абласным краязнаўчым музеем з 2018 года красуецца помнік волату ў поўную яго вышыню – 2 м 85 см з вялікім падабенствам аблічча. Аматары ствараюць макеты, трафарэты, партрэты з выявай гіганта. Кожнае лета ў вёсцы Лётцы ладзяцца святы, прысвечаныя знакамітаму ўраджэнцу Віцебскага раёна, і папулярнасць яго расце.

Сёлета ажывілася праца па стварэнні турыстычнага маршруту Віцебск - хутар Махнова. Створана карта, намечаны пункты адпачынку і прывалаў, якія ўладкоўваюцца. Трэба аддаць належнае маладому ляснічаму Алегу Грыцкевічу, які на практыцы злучыў прыгожае з карысным. У пункце маршруту былой вёскі Гарбачы агульнымі намаганнямі збудавалі вышку для пастаяннага назірання за перамяшчэннем жывёл у лясах нашага краю. Вышка знаходзіцца на самым высокім месцы вялізнай паляны круглай формы. Гэта ўзвышаная паляна ў 1944 годзе доўгі час была полем баёў нашай арміі на шляху прарыву варожай абароны ў раёне станцыі Старое Сяло. У гэтай зямлі супакоіліся тысячы савецкіх салдат, яна і цяпер называецца "Мёртвая гара". На сцяне збудаванай вышкі, якая будзе называцца "Крэсла волата", плануецца размясціць плітузгістарычным тлумачэннем мінулых ваенных падзей. Сягоння каля вышкі пабудавана вялікая лава для адпачынку. З часам плануецца прабурыць свідравіну для пітной вады. Па трасе будуць пастаўлены моцныя ўстойлівыя лаўкі. Праз рэчку Заронаўка пабудаваны масток. Рэшткі цаглянага млына будуць закансерваваны для працяглага захавання. У канцы маршруту будзе добраўпарадкавана пляцоўка для шматдзённага адпачынку.

Жадаецца верыць і спадзявацца, што ўсе задумкі будуць паступова ўвасоблены ў рэальнасць. І яшчэ трэба адкрыта сказаць, што на шляху здзяйснення задуманых і часткова рэалізаваных планаў ўстае вельмі актуальная праблема – рамонт дарогі.

**М. ЮШКЕВІЧ**
**"Жыццё Прыдзвіння"**

СПАДЧЫНА

# КУПАЛЬСКІЯ ТРАДЫЦЫІ ЯК ПСІХАЛАГІЧНАЯ ПАДТРЫМКА

**Са старажытных часоў вялікія святы выконвалі шмат функцый. Адной з самых важных з'яўлялася псіхалагічная разрадка.**



Жыццё па строгіх правілах і нормах прыводзіла да псіхалагічнага напружання ў грамадзе. На агульных святах, калі дазваляліся (і нават заахвочваліся) парушэнні гэтых правіл, свавольствы і розныя штукарствы, гэтае напружанне здымалася. Таксама псіха-эмацыйнай разрадцы спрыялі і разнастайныя традыцыі ды рытуалы (рытуальныя гульні, спевы, вогнішча і г. д.).

22 - 23 чэрвеня, у перыяд летняга сонцастаяння, нашыя продкі адзначалі Купалле. Гэты час лічыўся кропкай найвышэйшага росквіту прыроды. З Купаллем звязана мноства звычаяў і рытуалаў.

Як можна адзначыць свята ды скарыстаць «мудрасць» продкаў у сучасных умовах, распавядаем у артыкуле.

**1. Зёлкі ды зеляніна**

Лічылася, што ў дзень летняга Сонцавароту ўсе зёлкі набываюць найбольшую моц. Таму з самага ранку дзяўчаты хадзілі ў лясы па лекавыя ды магічныя расліны. І хаця сёння ў нас існуюць аптэчныя лекі, выехаць на поле ці луг ды палюбавацца рамонкамі-валошкамі-званочкамі будзе дарэчы. А падораны сваякам ці сябрам букецік палепшыць настрой не толькі вам.

**2. Чысціня ў хаце — чысціня ў думках**

Як і перад любым святам, перад Купаллем наводзілі парадак у хаце, на падворку. Гэта дзеянне само па сабе станоўча ўплывае на наш псіха-эмацыйны стан (ды й для фізічнага здароўя карысна). А, калі, выносячы смецце, яшчэ дадасце туды свае негатыўныя думкі, будзе вам двайная палёгка.

**3. Спальванне пудзіла**

Адным з рытуалаў свята з'яўлялася ўрачыстае спальванне пудзіла на вялікім вогнішчы. Разам з ім палілі рыззё, рознае ламачча, каб пазбавіцца ад хвароб і непрыемнасцей.

Развесці вогнішча ў горадзе не так проста. І, калі ў вас не атрымалася далучыцца да святкавання Купалля за горадам, то спаліць пудзіла сваіх жахаў і непрыемнасцяў дастаткова праблематычна. Але выйсце ёсць! Намалюйце усё, ад чаго вам хацелася б пазбавіцца. Альбо напішыце. Падключыце да гэтай справы сваіх сямейных — няхай атрымаецца такое агульнае пудзіла. І спаліце гэты аркуш у металічным тазіку. Попел можна змыць у прыбіральні, яскрава ўяўляючы, як разам з ім з вашага жыцця сыходзіць усё тое, што вы напісалі/намалявалі.

**4. Ранішні шпацыр**

Каб быць здаровымі ды актыўнымі, нашыя продкі на Купалле качаліся ў расе на досвітку. Калі вам гэты рытуал падаецца занадта экстрэмальным, проста выйдзіце ў бліжэйшы сквер ці парк і сустрэньце ўзыход сонейка. Нават, калі вы любіце паспаць падолей, зрабіце на адзін дзень выключэнне — вы не пашкадуеце.

Тым, у каго ёсць магчымасць адпачыць удзень, можна зрабіць «татальную перазагрузку» — увогуле не класціся спаць у самую кароткую ноч. Яе можна прысвяціць справам, якія прыносяць вам задавальненне, але якія вы пастаянна адкладаеце. Альбо пабыць з сябрамі. А на досвітку ўсім разам сустрэць сонца.

**5. Рытуальнае купанне**

Не абысціся на летні сонцаварот і без вады. Калі побач няма прыроднага вадаёму, дзе можна паплюхацца, прыміце ванну з зёлкамі ці кантрасны душ. Нават простае ўмыванне прахалоднай вадой, спаласкванне рук і ног будуць мець неблагі эфект. Асабліва, калі вы будзеце ярка ўяўляць, што сцякаючы з вашага цела, вада забірае з сабой хваробы, стому, залішнія клопаты.

**6. Рытуальная ежа**

Нейкіх спецыфічных страў на Купалле не гатавалі — частаваліся тым, што кожны прыносіў да агульнага стала каля вогнішча. Звычайна гэты былі пірагі, яешня, бліны ды іншыя смакоцці. Прыгатуйце для сябе і блізкіх штосьць адметнае ў гэты дзень, дадайце туды сонечнага настрою ды пазітыўных пажаданняў — і вось, рытуальная страва гатова!

І не забываемся пра цудадзейнасць зёлак у гэты час. Запарваем смачныя травяныя гарбаты ды частуем імі родных і сяброў.

**7. Пошук папараць-кветкі**

Калі вам не вельмі пасуе блукаць апоўначы па лесе ў пошуках чароўнай расліны, прапануем зрабіць гэта дома. Падрыхтуйцеся загадзя: знайдзіце лісткі папараці (альбо выражце іх з каляровай паперы) і набудзьце маленькія прыемнасці для кожнага чальца сям'і (ці кампаніі, у якой вы захочаце адзначыць сонцаварот). Прымацуйце сюрпрыз да папараці і схавайце. Пасля смачнай вячэры адпраўляйцеся ўсёй кампаніяй на пошукі (можна раскідаць падказкі ці нават мапу намаляваць).

Такая простая гульня дапаможа «вынырнуць» з паўсядзённых хваляванняў і клопатаў, дасць магчымасць адпачыць і скінуць назапашанае псіха-эмацыйнае напружанне. А адшуканы сюрпрыз стане прыемным напамінам пра свята ў цяжкія моматы жыцця.

**8. Варожбы**

Усе знакавыя кропкі календара — гэта час, калі часавыя і прасторавыя межы стаюць тонкімі і можна «зазірнуць» у будучыню. Прынамсі, так лічылі нашы продкі. Таму на Купалле варажылі на будучы лёс, на нарачонага безлічччу спосабамі.

Прапануем такую практыку: напішыце на аркушах пазітыўныя падзеі, якія могуць вас чакаць у будучыні (прыемнае падарожжа, цікавая сустрэча, павышэнне заробку і д. п.). Складзіце аднолькава гэтыя паперкі і засыпце крупамі ў якой-небудзь місачцы. Запаліце свечку каля гэтай міскі і варажыце — выцягвайце сваё прадказанне.

Калі чалавек верыць у варож-бы, прадказанні і д. п., то, атрымаўшы такую «будучыню», ён падсвядома будзе імкнуцца яе ажыццявіць. Таму вельмі важна, каб усе паперкі с прадка-заннямі былі пазітыўнымі. Калі ж не верыць — проста прыемна пабавіць час.

Няхай найвышэйшая кропка росквіту прыроды і вам падорыць сілы і росквіт, не гледзячы ні на што!

**АЯ**

**budzma. org**

ЗДАРЭННЕ

# ПАЦЯРПЕЛІ ВАЙСКОЎЦЫ

**У Віцебскім раёне бензавоз выкінуў з дарогі грузавік з салдатамі.**

Сутыкненне адбылося днём, непадалёк ад аграгарадка Копці. Па дадзеных следства, бензавоз «MAN» допусціў сутыкненне з аўтамабілем «Урал-4320», які стаяў на ўзбочыне і ў якім знаходзіліся салдаты.

У выніку ўдару вайсковы «Урал» выкінула ў кювет, а бензавоз перакуліўся. У выніку гэтага дарожна-транспартнага здарэння пацярпелі вайскоўцы, паведамляе Міністэрства абароны. Ваенныя праводзяць праверку.

**ННВ**

ПРАВАПАРАДАК

# МЯСА, ЯКОЕ «ВЫПАРЫЛАСЯ»

**Пракурор Віцебскага раёна ўзбудзіў крымінальную справу ў дачыненні да загадчыка адной з малочна-таварных ферм сельскагаспадарчай арганізацыі па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч.2 арт.424 КК Рэспублікі Беларусь.**

У ходзе правядзення праверкі ўстаноўлена, што апошні, з'яўляючыся службовай асобай, наўмысна, з карыслівай і іншай асабістай зацікаўленасці, з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў, склаў і падпісаў ад імя 11 работнікаў агракомплексу дакументы на набыццё імі мяса буйной рагатай жывёлы ў лік заработнай платы, якое насамрэч ім перададзена не было.

Незаконныя дзеянні загадчыка пацягнулі прычыненне істотнай шкоды правам і законным інтарэсам работнікаў прадпрыемства, паколькі на падставе названых дакументаў грашовыя сродкі былі ўтрыманы з заработнай платы работнікаў.

Для арганізацыі папярэдняга следства крымінальная справа накіравана ў Віцебскі РАСК.

**І. Лісоўскі**
**пракурор Віцебскага раёна**

ПАРАДЫ МЕДЫКАЎ

# ЯК СЯБЕ ПАВОДЗІЦЬ У СПЯКОТНАЕ НАДВОР'Е?

**Падчас спёкі нашаму целу можа быць цяжка кампенсаваць высокую тэмпературу навакольнага асяроддзя і астуджаць сябе. Наступствы – перагрэў і цеплавы ўдар. Небяспека расце ва ўмовах высокай вільготнасці, калі пот выпараецца з меншай хуткасцю, а таксама ў залежнасці ад стану здароўя.**

Узрост, наяўнасць атлушчэння, ліхаманкі ці абязводжвання, сардэчныя і ментальныя хваробы, дрэнны кровазварот, сонечны апёк, ужыванне лекаў і алкаголю – усё гэта ўплывае на тое, як мы пераносім спякотнае надвор'е.

Але нават маладым людзям, хто не мае хранічных хвароб, можа зрабіцца дрэнна ў спёку. Пазбегнуць гэтага можна так:

- Праводзьце на вуліцы менш часу, асабліва ў сярэдзіне дня, калі тэмпература самая высокая. Калі ж вы працуеце або трэніруецеся на вуліцы, рабіце частыя перапынкі ў цені ці ў памяшканні пад кандыцыянерам, падчас якіх піце ваду.
- Выкарыстоўвайце сонцаахоўную касметыку і не забывайце яе нанава наносіць на скуру праз пэўны час.
- Перагледзьце інтэнсіўнасць сваіх спартовых трэніровак – пачынайце занятак з малой нагрузкі і павышайце яе паступова. Гэты ж прынцып варта ўжываць і да звычайнай працы.
- Насіце лёгкае і свабоднае адзенне светлых колераў. Калі працуеце на вуліцы, надзявайце галаўны ўбор.
- Праверце, ці ў парадку ваш сябар ці сусед, і папрасіце зрабіць тое ж самае для вас.
- Не гатуйце ежу з дапамогай пліты ці духоўкі, бо гэта зробіць тэмпературу ў памяшканні яшчэ вышэйшай.
- Прымайце халодны душ ці ванну, каб ахладзіць цела.
- Піце больш вады, чым звычайна, не чакайце адчування смагі.
- Пазбягайце прамых сонечных промняў і хавайцеся пры магчымасці ў цень.
- Не пакідайце дзяцей ці жывёл адных у аўтамабілі.
- Ешце менш. Аддавайце перавагу садавіне, багатай на клятчатку і сокі, і пазбягайце ежы, у якой шмат бялку – арганізму будзе цяжка пераварваць яе ў спёку.

У групе рызыкі – пажылыя людзі, асабліва старэйшыя за 75 гадоў, дзеці да 2 гадоў, а таксама людзі з хранічнымі хваробамі, у тым ліку з захворваннямі сэрца, нырак ці лёгкіх, дыябетам, хваробай Паркінсана і некаторымі ментальнымі хваробамі. Не ў меншай небяспецы і тыя, хто праводзіць шмат часу на вуліцы ці ў гарачых памяшканнях: напрыклад, тыя, што жывуць на верхнім паверху шматпавярховіка, бяздомныя людзі ці тыя, хто працуе на вуліцы.

*(скарочана)*

**А.Архіпаў**

НАША СПАДЧЫНА

# НЕПАХІСНЫ У СВАІХ ПРЫНЦЫПАХ, РЭАЛІСТ-ТРАГІК, ПАЧЫНАЛЬНІК АКОПНАЙ ПРАЎДЫ ПРА ВАЙНУ

**19 чэрвеня 98-ы дзень народзінаў Васіля Быкава. «Народная воля» працягвае публікаваць фрагменты з кнігі «250 асоб з Беларусі ў дыялогах культур». Аповед пойдзе пра адну з самых буйных постацяў у беларускай літаратуры другой паловы ХХ стагоддзя, народнага пісьменніка Беларусі — Васіля Быкава.**




Васіль Быкаў — пісьменнік, народны пісьменнік Беларусі (1980), Герой Сацыялістычнай Працы (1984), лаўрэат Ленінскай прэміі (1986).

Строгі, нават жорсткі рэаліст-трагік. Схіляўся і да мадэрнізму. Майстар ваеннай аповесці, у якой на лакальным матэрыяле глыбока раскрываў сутнасць чалавека. Пачынальнік гэтак званай акопнай праўды пра Вялікую Айчынную вайну. Аднак заставаўся непахісным у сваіх гуманістычных і дэмакратычных прынцыпах. Прайшоў усю сваю творчую дарогу мужна, не паддаючыся ідэалагічнаму ціску савецкай сістэмы, вырасшы ў сімвал сумлення нацыі, яе найвышэйшы аўтарытэт.

Дарога жыцця В.Быкава пачыналася ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці ў беднай сялянскай сям'і. У 1939 годзе паступіў у Віцебскае мастацкае вучылішча, але быў вымушаны пакінуць гэтую навучальную ўстанову і стаў вучыцца ў школе будаўнікоў. Затым — вайна, праца на абарончых земляных аб'ектах, адступленне, прызыў у войска, вучоба ў Саратаўскім ваенным вучылішчы (1942–1943). Пасля — фронт. Ваяваў у пяхоце, артылерыі, пераважна на перадавой. Двойчы быў паранены. Зведаў у поўнай меры цану чалавечага жыцця ва ўмовах тагачаснай франтавой рэчаіснасці.

Дэмабілізаваўся ў 1947 годзе і прыехаў у Гродна, дзе працаваў мастаком, а пасля журналістам рэдакцыі газеты «Гродзенская праўда». У 1949–1955 гадах служыў у войску. Жывучы ў Гродне, В.Быкаў шмат друкаваўся. Кожная яго аповесць станавілася падзеяй, пашырала кола яго чытачоў, прыцягвала ўвагу кінематографа і сцэны. У кожным са сваіх твораў пісьменнік ставіў героя перад тварам смерці і прымушаў рабіць свой выбар, правяраў яго на чалавечую годнасць. Раскрываліся ў творах і агульначалавечыя думкі пра жыццё і яго страшны фінал, пра маладосць, каханне, адвечную красу прыроды, пра магчымасць духоўнага патэнцыялу чалавека, пра дабрату і жорсткасць, высакароднасць і шкурніцтва. Гэта ў аповесцях «Жураўліны крык» (1960), «Здрада» (1961), «Трэцяя ракаета (1962), «Пастка» (1962), «Альпійская балада» (1964), «Мёртвым не баліць» (1965), «Праклятая вышыня» (1968), «Круглянскі мост» (1969), «Сотнікаў» (1970), «Абеліск» (1971), «Дажыць да світанку» (1973), «Воўчая зграя» (1974), «Яго батальён» (1975), «Пайсці і не вярнуцца» (1978). Кожны з твораў непаўторны і зместам, і стылёвымі адценнямі. Але ў кожным герой праходзіць праз пакутна-трагічныя нягоды і страты, выяўляючы такім чынам свой унутраны воблік.

Жывучы ў Гродне, пісьменнік шмат ездзіў па СССР, краінах Захаду. Пашыралася кола яго аднадумцаў і прыхільнікаў сярод калег і чытачоў. У Гродне Быкаў узначаліў абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1978 годзе пераехаў у Мінск, дзе выйшлі аповесці «Знак бяды» (1984) «Кар'ер» (1986), «У тумане» (1987), «Аблава» (1989), у 1990-я гады — «Сцюжа», «Воўчая яма», «Балота», «Пакахай мяне, салдацік», якія замацавалі сусветны аўтарытэт мастака-гуманіста.

Напрыканцы 1990-х гадоў ён пакінуў радзіму і выехаў на Захад. Жыў у Фінляндыі, Германіі, Чэхіі.

Кнігі апошняга перыяду жыцця пісьменніка: зборнік «Сьцяна» (1997), «Пахаджэньне. Прыпавесьці» (1999) — вызначаюцца глыбокім трагізмам успрымання жыцця. Апошняя прыжыццёвая кніга В.Быкава «Доўгая дарога дадому» (2002) — мемуары. Яны цікавыя не толькі фактамі, але і іх асэнсаваннем, ацэнкамі, зробленымі з вышыні пражытых гадоў. Перад намі — эпапея чалавечага лёсу на крутых паваротах ХХ стагоддзя. В.Быкаў даў сваімі ўспамінамі вельмі важныя ўрокі жыцця. У канцы кнігі — нават своеасаблівы маральна-патрыятычны запавет, звернуты да сучаснікаў і нашчадкаў. Гэта нібы завяршэнне яго багатай публіцыстыкі.

Цяжка захварэўшы, В.Быкаў пакінуў Чэхію і прыехаў у Мінск, каб апошні раз дакрануцца да роднай зямлі.

Спадчына выдатнага беларускага пісьменніка выдадзена ў 1980–1982 гадах у 4 тамах, і ў 1992–1994 гадах — у 6 тамах. Яго творы перакладзены на 35 моў свету.

Памёр і пахаваны ў Мінску.

**«Народная Воля»**

РОДНАЯ МОВА

# «БЕЛАРУСЬ БЫЛА МОЦНАЙ КРАІНАЙ ТОЛЬКІ ТАДЫ, КАЛІ З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ УСЁ БЫЛО ДОБРА»

**Юрыст і «моўны інспектар» Ігар Случак на падставе сваёй дысертацыі падрыхтаваў кнігу «10 стагоддзяў дзяржаўнасці і дыскрымінацыі беларускай мовы». Аўтар распавёў «Новаму Часу» пра тое, якая сувязь паміж мовай і дабрабытам краіны, а таксама як можна атрымаць выданне.**

**— Распавядзіце, як утварылася кніга і чаму менавіта цяпер прыйшоў для яе час?**

— Ужо больш за 10 год я займаюся абаронай моўных правоў. Я шмат перапісваюся з чыноўнікамі, вытворцамі, спартовымі клубамі, рознымі арганізацыямі і іншымі ўстановамі — у мяне ёсць унікальны архіў доказаў недасканаласці моўнага заканадаўства. Я вывучыў усю магчымую літаратуру пра беларускую мову, пісаў дысертацыю і дыпломную работу пра моўную палітыку ў Беларусі, распрацоўваў змены ў заканадаўства.

На падставе свайго доседу і ведаў пра моўную палітыку я даўно хацеў выдаць такую кнігу, але, калі жывеш у Беларусі і робіш для яе нешта карыснае, нічога немагчыма сплanаваць. Бо сёння ты ў адным месцы, а заўтра ўжо вымушаны збіраць Стэфана (сына Ігара Случака і Аліны Нагорная. — НЧ), котку, рэчы і шукаць новае жытло, новыя кампутары. Таму ідэя з кнігай усё адкладалася і адкладалася.

А цяпер мы з Алінай распачалі «Акадэмію Ў» — курсы па абароне моўных правоў, і я зразумеў, што для паўнавартаснага навучання трэба падручнікі. І гэтыя веды важныя не толькі для нашых студэнтаў, але і для ўсіх, хто хоча, каб Беларусь была незалежнай, праваой і дэмакратычнай краінай.

**— Назва кнігі вельмі інтрыгоўная і абяцае шмат цікавых гістарычных прыкладаў як панавання, так і дыскрымінацыі беларускай мовы цягам 10 стагоддзяў нашай гісторыі. Ці можаце прывесці некалькі з іх, каб даць уяўленне будучым чытачам, што іх чакае?**

— Як прыклад панавання можна прывесці той факт, што каралі польскія карысталіся беларускай мовай, бо ў той час, калі беларуская мова ўжо была мовай прававых актаў, польская пісьмовая мова яшчэ была недастаткова развітая. Таксама ў якасці добрага прыкладу можна ўзгадаць, што мовай дыпламатычных зносін з заходнім светам была лацінская, а з усходнім — беларуская.

Як прыклад дыскрымінацыі можна прывесці той факт, што з 1697 года на беларускай мове забаранілі выдаваць новыя прававыя акты, або тое, што канстытуцыя 3 траўня 1791 года была выдадзена толькі па-польску. Або тое, што сёння заканадаўства ў 98,5% выпадкаў выдаецца на рускай мове.

**— Даследаваўшы ажно 10 стагоддзяў існавання беларускай мовы, маглі б вы падзяліцца нейкімі найбольш важнымі высновамі?**

— Беларусь была моцнай краінай толькі тады, калі з беларускай мовай усё было добра. Менавіта таму нядобразычліўцы мэтанакіравана стагоддзямі знішчалі нашую мову, каб Беларусь не была самастойнай, а беларусы сталі «лялькамі» чужых інтарэсаў.

У 10 стагоддзі нарадзілася беларуская дзяржаўнасць у выглядзе Полацкага княства — да гэтага палітычнай арганізацыі не было, было толькі кіраванне плямёнамі. І калі з'явілася дзяржава, то з'явіліся падстава і разважаць пра дзяржаўную мову. І хоць напачатку палітычныя эліты карысталіся сваёй роднай скандынаўскай мовай, але пасля цалкам перайшлі на беларускую.

**— Дык чаго ж у гісторыі беларускай мовы было больш — дзяржаўнасці ці дыскрымінацыі? Ці дае кніга адказы на пытанні пра прычыны гэтага?**

— Цяпер можна казаць, што гісторыя падзялілася на два роўныя адрэзкі — да 15 ст. было больш дзяржаўнасці, пасля пачалася моўная дыскрымінацыя і, адпаведна, заняпад беларускай дзяржаўнасці. Таму калі мы хочам бачыць Беларусь сапраўды незалежнай і моцнай дзяржавай, гісторыя кажа нам аб тым, што беларуская мова павінна быць адзінай дзяржаўнай у краіне.

**— Нядаўна выйшла кніга Аліны Нагорнай «Мова 404» пра дыскрымінацыю беларускай мовы. Ці не будзе паўтарэнняў у вашай кнізе?**

— Кніга Аліны — рэальныя гісторыі людзей, што размаўляюць па-беларуску ў Беларусі. Жывыя прыклады дыскрымінацыі. У маёй кнізе — факты, падзеі, юрыдычныя моманты. Але і прыклады з кнігі Аліны таксама ёсць, бо яны цудоўна ілюструюць недасканаласці сённяшняга моўнага заканадаўства.

**— Як можна падтрымаць выданне і атрымаць кнігу?**

— Трэба паставіць плюсік тут, а мы звяжамся з вамі праз некаторы час.

**Яўгенія Бурштын**
**novychas.online**

РАСІЯ

# МЫ ПОЛАГАЛИ, ЧТО ВЫ ОТСТАЛИ ЛЕТ НА 10-15. ОКАЗАЛОСЬ — НАВСЕГДА!

**С вице-премьером РФ Юрием Борисовым не поспоришь, и потому «глупо говорить, что в России существует серийное микроэлектронное производство». «Современная цивилизация — это цивилизация постоянного ускорения. Оно ощущается повсюду — не только в скорости появления новых идей, но и в технологиях, в экономике, в торговле, в образовании, в средствах массовой информации, в политике, даже в повседневном быте людей».**



Золотые слова, и произнесены они были с самой высокой трибуны страны в 2013 г.!

Разумеется, автор золотых слов не претендовал на лавры первооткрывателя. Постоянное ускорение — отличительная черта Нового времени, хронологию которого специалисты ведут с открытия Колумбом Америки.

В наши дни ускорение в сфере новых технологий проявляется, в частности, в эмпирическом наблюдении соучредителя корпорации Intel Гордона Мура, согласно которому количество транзисторов, размещаемых на кристалле интегральной схемы, удваивается каждые два года.

Богу Богово, а Муру мурово. Для корпорации Intel и для всех ее транснациональных товарищей по несчастью у нас есть свой, в национальные цвета раскрашенный ответ. В афористичной форме он был вербализован еще в 2016 г.:

«Инновации, IT-технологии, приватизации и прочее. Все это понятно. Мы уже это освоили. Но все, и наша жизнь — в простом. Надо раздеваться и работать. До седьмого пота. Не будет этого — погибнем».

**Основной вывод мозгового штурма**

Прошло шесть лет. Мы живы. Однако «спецоперация», точнее реакция объединенного Запада на «спецоперацию», внесла серьезные коррективы в простую и отлаженную формулу выживания. Она понятна каждому, кто в детстве читал романы Фенимора Купера и Майн Рида. Читателям, с книгами классиков приключенческого жанра XIX века незнакомыми, поясню, что в основе ее — бартер природного сырья на промышленные изделия.

На дворе, если кто запамятовал, пятый технологический уклад, список ядерных характеристик которого возглавляет электронная промышленность. Поэтому придание нового импульса развитию отечественной микроэлектроники актуально как никогда. О нем и шла речь 14 июня на совещании во Дворце Независимости.

Основной вывод мозгового штурма передает следующая цитата:

«...ракеты должны летать в космос, ракеты оборонные, ПВО, земля-земля и так далее, подлодки и ядерные боеголовки должны летать. Никто под это не даст то, что ты производишь. Сейчас актуальнейшая тема: сможем ли мы всем своим комплексом предприятий, которые у нас есть (микроэлектронных предприятий), обеспечить наши потребности — России и Беларуси. Деньги на это есть».

До начала «спецоперации», а если точнее, до «Крымнаш», наличие денег на просторах Союзного государства гарантировало решение проблем любой сложности. А что мы имеем сегодня?

На совещании было упомянуто всуе имя ответственного за российский ВПК, вице-премьера Юрия Борисова. Ему и слово:

«Глупо говорить, что в России существует серийное микроэлектронное производство. Мы даже отсутствуем в мировой статистике».

Слово это не было обронено впопыхах, а прозвучало в декабре 2019 г. с трибуны конференции «Электроника в России: будущее отрасли».

За неполных три года оптимизма у вице-премьера не прибавилось. 13 июня в интервью РБК ТВ он подчеркнул, что в последнее десятилетие в России не развивалось электронное машиностроение, средства производства электроники в стране не создавались, а закупались за рубежом.

«С 1990-х годов мы практически потеряли компетенции в этой области. И сегодня будем их восстанавливать».

Интересно, сколько лет уйдет на восстановление компетенций 90-х, и кому сегодня нужны компетенции тридцатилетней давности? Между тем закон Мура никто не отменял. Последовательное удвоение количества транзисторов каждые два года на единице площади кремниевых кристаллов означает непрерывное совершенствование оборудования.

До начала «спецоперации» заказы на производство серверных процессоров собственной разработки Baikal-S Россия размещала на тайваньской TSMC. Увы, такой уровень кооперации остался в прошлом.

Перспективы обсуждения нового уровне кооперации экс-президент России Дмитрий Медведев четко обозначил в своем июньском манифесте: «Я их ненавижу. Они ублюдки и выродки. Они хотят смерти нам, России. И пока я жив, я буду делать все, чтобы они исчезли».

Тем не менее, вера в «наши разработки», способные удивлять и отрезвлять любителей вынашивать агрессивные планы в отношении Союзного государства, непоколебима. С этим сложно не согласиться. Как тут не вспомнить анекдот о реакции руководителя японской делегации на увиденное на одном из флагманов советской микроэлектроники в конце 80-х: «Мы полагали, что вы отстали лет на 10-15. А вы отстали навсегда!»

**Сергей Николюк**
**www.sn-plus.com**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАДТРЫМКА

# «ТУНЕЯДЦЕВ» МЫ НАЙТИ МОЖЕМ, А НУЖДАЮЩИХСЯ В ПОМОЩИ — ПОЧЕМУ-ТО НЕТ

**Академический директор BEROC Катерина Борнукова — о том, какой должна быть социальная поддержка белорусов в условиях санкций и роста цен. Власти подготовили законопроект по социальной поддержке населения, его внесли на рассмотрение депутатам. В частности, чиновники хотят разрешить правительству устанавливать единовременные выплаты отдельным категориям граждан.**

**— В начале апреля правительство Беларуси приняло план поддержки экономики, в котором, в частности, есть такая мера: организации смогут получать субсидии из ФСЗН для доплат работникам, а также государственной соцпомощи на ежемесячное соцпособие. Насколько, по-вашему, это эффективно?**

— Это такая мера, которая выступает своеобразным заменителем пособий по бедности и безработице. Такой мерой нанимателей стимулируют, чтобы они не увольняли работников, продолжали их держать на рабочих местах, и ФСЗН будет субсидировать часть зарплат, часть выплат этим работникам. Это в каком-то плане костыль, потому что это не очень прозрачная схема. Пособие по безработице или по бедности понятно как работает, а как работает этот механизм, каким образом можно получить к нему доступ, в общем-то не очень ясно.

Похожие механизмы вводились во время ковида, и мы не знаем ни одного кейса, когда такой субсидией могли бы воспользоваться частные фирмы, то есть формально ограничения нет, но из-за неясности механизма, каким образом надо доказывать, что именно твоему предприятию нужны эти субсидии, вероятность того, что частный сектор или его работники смогут получать эти субсидии из ФСЗН, очень мала.

Это несправедливый подход, потому что у нас половина рабочей силы занята в частном секторе, они такие же граждане Беларуси, как и сотрудники госпредприятий, которые с большей вероятностью получат поддержку, чем сотрудники частных компаний.

В ближайшее время экономику ждет структурная трансформация. Это означает, что одни компании будут вынуждены закрыться, другие откроются. Искусственные программы по поддержке занятости хорошо отработаны в ковид, когда надо было, например, переждать пару месяцев и потом все более-менее налаживалось. Действительно, имеет смысл в эти пару месяцев людей не увольнять.

Когда мы говорим о долгосрочной структурной трансформации, то, конечно, надо людям давать социальную поддержку первое время, но она не должна быть в виде поддержания занятости.

То есть сегодня лучше, чтобы работники «Беларуськалия», которые простаивают, искали новую занятость на предприятии, которое работает, например, на импортозамещении, чем просто сидели и получали небольшое пособие от государства.

Это пособие, конечно, должно быть первое время. Но надо мотивировать людей переходить на новые рабочие места, чтобы структурная трансформация проходила быстрее.

**— Как вы считаете, какие меры следовало бы принять властям для того, чтобы поддержать население?**

— Часть того, что делается, постоянная индексация пенсий и пособий, это очень важно, потому что пенсии для большинства пожилых людей — это единственный источник дохода. Надо очень внимательно следить за тем, чтобы пенсия соответствовала критериям бюджета прожиточного минимума.

Второй момент — расширение существующей адресной социальной помощи, чтобы люди знали о ней и могли легко ее получить, а не надо было собирать множество бумаг. Возможно, давать ее по выявительному принципу. «Тунеядцев» мы найти можем, а нуждающихся в адресной социальной помощи — почему-то нет.

Учитывая те процессы, которые грядут на рынке труда, трансформации и перестройки, обязательно нужно иметь пособие по безработице, которое позволило бы человеку после увольнения какое-то время поддерживать свой прежний уровень жизни и спокойно заниматься поиском новой работы.

Не надо изобретать велосипед. Есть хорошо работающие рынки труда, например, в Германии, который с одной стороны имеет высокий уровень социальной защиты, с другой — не приводит к искажениям, к тому, что люди не хотят искать работу.

В идеале первые месяц-два пособие по безработице должно быть привязано к зарплате работника. Пусть это будет не сто процентов, а 60-80. А после человека переводят на пособие по бедности, которое позволяет его семье получать минимальную поддержку, чтобы функционировать. Таким образом не будет создаваться негативных стимулов на рынке труда. Если платим хорошее пособие пару месяцев, вы будете заинтересованы найти работу как можно скорее, а не сидеть на пособии годами.

*(скарочана)*

**Яна Соколова**
**gazetaby.info**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5,
Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: bigsmoll2007@gmail.com
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 29.06.2022 у 16.55**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.